


# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(88) Травень 2001 May Год выд. 7.


## ПЯЦЬ КАНДЫДАТАЎ У ПРЭЗЫДЭНТЫ

*Пяць вядомых палітыкаў -- Уладзімер Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір -- заявілі 25 красавіка аб дасягнутай паміж імі дамоўленасьці па каардынацыі дзеяньняў для дасягненьня агульнай мэты -- перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах. У гэтай сувязі яны распаўсюдзілі сумесную заяву, у якой выклалі свае асноўныя прынцыпы.*

Гэта -- вывад краіны з зацяжной крызы і пад'ём нацыянальнай эканомікі на аснове распрацаванай агульнай праграмы, якая прадугледжвае эфэктыўнае выкарыстаньне геапалітычнага становішча Беларусі, стварэньне спрыяльных умоваў для вытворчасьці, інвестыцыяў, развіцьця ўсіх формаў уласнасьці.

У дакуманце гаворыцца, што перамога на прэзыдэнцкіх выбарах неабходная для "рэальнага павышэньня дабрабыту людзей, пераадоленьня беднасьці й галечы, надзейнай сацыяльнай абароны пенсыянэраў, інвалідаў, чарнобыльцаў, навучэнцаў, дапамогі сям'і; забеспячэньня правоў і свабод грамадзянаў; належнай барацьбы са злачыннасьцю; ліквідацыі чыноўніцкага бязьмежжа й карупцыі, перасьледу іншадумцаў; рэабілітацыі незаконна асуджаных, устанаўлення вінаватых у зьнікненні людзей".

Палітыкі заявілі аб гатоўнасьці ўмацоўваць мясцовыя Саветы й органы самакіраваньня, што прывядзе да вяртаньня ўлады народу. У праграме "блоку кандыдатаў" гаворыцца, што ейная рэалізацыя прывядзе да развіцьця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Расеяй "у саюзе дзьвюх суверэнных дзяржаваў", да ўстанаўленьня сяброўскіх адносінаў з краінамі Эўропы і ўсяго сьвету, пераадоленьню міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

Аўтары звароту заклікаюць усіх грамадзянаў Беларусі аб'яднацца дзеля будучыні Радзімы: "Толькі разам мы ў сілах зьмяніць жыцьцё да лепшага, забясьпечыць для кожнага магчымасьць зарабляць і законны парадак для ўсіх".

У траўні палітыкі, якія падпісалі гэты дакумэнт, маюць намер правесьці прэсавую канферэнцыю і больш падрабязна распавесьці пра свае пляны.

*************************************************

## Беларуская эліта ня хоча больш бачыць Лукашэнку прэзыдэнтам

**86,8 працэнта бізнесоўцаў, палітолагаў, кіраўнікоў мас-медыя як з дзяржаўных, так і з недзяржаўных структураў - ня хочуць бачыць Аляксандра Лукашэнку прэзідэнтам Беларусі яшчэ на адзін тэрмін. У той жа час 22,1 працэнта гатовыя прагаласаваць на будучых прэзідэнцкіх выбарах за Сямёна Домаша. І ягоны рэйтынг паступова расце. Такія вынікі сацыялагічнага апытання Нацыянальнага Інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаванняў, прэзентаванага амбасадарам замежных краінаў і грамадска-палітычным лідарам Беларусі ў штаб-кватэры місіі АБСЕ.**

У апытанні НІСЭПД узялі ўдзел звыш 70 беларускіх палісімейкераў, экспертаў, лідараў мас-медыя і бізнесоўцаў, якія раўназначна прадстаўлялі дзяржаўны і недзяржаўны сектары. Паводле дадзеных апытання, сярод магчымых кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Беларусі вызначылася тройка лідараў (Сямён Домаш - 22,1 працэнта, Міхаіл Чыгір - 20,6 і Уладзімір Ганчарык - 13,2 працэнта адпаведна), якая істотна адарвалася ад іншых палітыкаў. Прычым, як вынікае з табліцы, прадстаўнікі дзяржструктураў хутчэй гатовыя прагаласаваць за Сямёна Домаша, чым за іншых палітыкаў, выстаўленых у рэйтынгу. Займальна, што ў тройку лідараў не ўваходзіць Аляксандр Лукашэнка, кандыдатуру якога апытаныя наогул лічаць непрымальнай.

А вось якім рэспандэнты ўяўляюць сабе будучага прэзідэнта Беларусі. Ягоны партрэт досыць рэзка адрозніваецца ад характарыстыкаў Аляксандра Лукашэнкі. 91 працэнт апытаных, пераважная большасць, бачыць будучага прэзідэнта краіны як прыхільніка радыкальных зменаў сённяшняга курсу дзяржавы, 88 працэнтаў упэўненыя, што гэта павінен быць чалавек, які будзе прытрымліваццца шматвектарнай знешняй палітыкі, гэта значыць актыўна развіваць стасункі Беларусі не толькі з Расеяй, але і з Еўропай.

У параўнанні з папярэднім апытаннем, у асяродку лідараў недзяржаўнага сектару істотна ўзрасла падтрымка адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў.

Больш за 60 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што Беларусі патрэбны незалежны кандыдат і, пажадана, не вайсковец. Адначасова, пераважная большасць апытаных - і прадстаўнікі дзяржаўнага сектару тут не выключэнне - не хочуць мець у будучыні прэзідэнта-аўтакрата. Як мяркуюць спецыялісты, вялікую ролю тут адыграў горкі досвед жыцця пры сённяшнім кіраўніку Беларусі.

+++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++



## 15-я гадавіна Чарнобылю...

Генэральны дырэктар ЮНЭСКА Кайшыра Мацуура выступіў з пасланьнем з нагоды 15-й гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. У лісьце гаворыцца: "Цягам 15-ці гадоў з часу найбуйнейшай катастрофы 20-га стагодзьдзя насельніцтва забруджаных ядравымі выкідамі тэрыторыяў перажывае цяжкія біялягічныя, сацыяльныя й эканамічныя наступствы трагедыі. Канчатковае спыненьне Чарнобыльскай АЭС не азначае разьвязаньня праблемы. ЮНЭСКА зрабіла свой унёсак у барацьбу супраць наступстваў катастрофы ў многіх краінах. Дык скарыстаем нагоду гэтай трагічнай гадавіны дзеля ўмацаваньня агульных высілкаў, каб слова "Чарнобыль" нагадвала ня толькі пра трагедыю, але й сталася сымбалем агульнаплянэтарнай салідарнасьці".

У Менску 26 красавіка адбыўся "Чарнобыльскі Шлях - 2001". Удзельнікі акцыі прайшлі ад пляцу Волі да Акадэміі навук, дзе адбыўся мітынг. Паводле прыблізных падлікаў удзел у шэсьці прынялі 5-7 тысячаў чалавек. Акцыя скончылася без затрыманьняў.

Ліквідацыя наступстваў Чарнобыльскай катастрофы яшчэ доўга будзе заставацца асноўным клопатам Беларусі, Украіны й Расеі - заяўляюць экспэрты з нагоды 15-й гадавіны трагедыі. Паводле спэцыялістаў, за гэты час ад наступстваў аварыі памерлі больш за 300 тысяч чалавек. Магутнасьць выбуху ў Чарнобылі была эквівалентная 30 - 40 бомбам, скінутым на Хірасіму й Нагасакі. 70 адсоткаў радыяцыйных выкідаў прыйшлося на тэрыторыю Беларусі. Мэдыкі канстатуюць, што ў нашай краіне за апошнія гады рэзка ўзрасла колькасьць анкалягічных захворваньняў. Сярод моладзі захворваньні павялічыліся на 35 адсоткаў. Эканамічная шкода Беларусі ў выніку аварыі ацэньваецца 235-цю мільярдамі даляраў ЗША, што роўна 32 бюджэтам краіны пэрыяду 1985 году.



## Усебеларускі з`езд вылучыць альтэрнатыву Лукашэнку

**У гэтым месяцы плануецца правядзенне з'езда прадстаўнікоў рэгіёнаў Беларусі з мэтай кансалідацыі грамадскасці краіны вакол альтэрнатыўнага Аляксандру Лукашэнку кандыдата на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Такое рашэнне было прынята ў Менску падчас пасяджэння Каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь», на якім прысутнічалі прадстаўнікі рэгіянальных кааліцыяў грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацыяў з усіх абласных цэнтраў і буйных гарадоў Беларусі.**

Для падрыхтоўкі і правядзення з'езда ўтвораны аргкамітэт. На думку кіраўніка Каардынацыйнай рады «Рэгіянальная Беларусь», магчымага кандытата на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша, «гэты форум пакажа, што Аляксандр Лукашэнка не з'яўляецца адзіным кандыдатам ад народа». Удзельнікі нарады таксама распрацавалі падрабязны план дзейнасці арганізацыяў рэгіёнаў Беларусі ў прэзідэнцкай кампаніі.

**************************************************

***Падтрымоўвайце беларускія выданьні!***

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Зьдзічэласьць і агрэсіўнасьць

Разумею, што такія карцінкі не для большасці маіх суайчыннікаў, якія забыліся, калі ўжо яны хадзілі ў рэстараны ці бары. Стала значна горш жыць, людзі пачалі горш харчавацца. Нярэдка ў бацькоў няма што даць дзецям, якія ідуць ранкам у школу, няма чаго з'есці самім на сняданак. Што купляе просты чалавек у краме? Ды хіба што толькі хлеб, малако, смятану і яйкі. А за ўсім астатнім валачэцца на Камароўку, каб набыць хоць трохі танней макаронныя вырабы, садавіну і гародніну, кавалачак мяса і крупы.

Найбольш танна можна набыць прадукты ў аптавікоў на той жа Камароўцы ноччу. Вось і цягаюцца там амаль упоцемках сотні нашых суайчыннікаў — старыя, нямоглыя людзі або тыя, у каго вялікая сям'я, яны затаварваюцца, як правіла, малаякаснымі, а нярэдка — і сапсаванымі прадуктамі. Прысмакі купляюцца толькі зрэдку — на святы, альбо калі нехта ў сям'і хворы. Натуральна, што тут ужо не вядзецца нават размова пра рэжым харчавання, патрэбныя пры тым ці іншым захворванні прадукты і іх падбор. Глядзяць, каб увогуле было што з'есці. Большасць існуе ў рэжыме, калі харчуюцца два разы ў дзень: зранку і ўвечары. А на абед у кагосьці «сабойка», сабраная з таго, што было дома — хлеб з каўбасой ці салам, а ў кагосьці — кубачак кавы ці гарбаты з булачкай, куплены у суседнім магазіне. Калі б так харчаваліся амерыканцы ці французы, яны б, напэўна, ужо пазабівалі адзін аднаго, а ў першую чаргу — кіраўніцтва краіны, якое давяло іх да такога становішчы. А нашы, відаць, маюць жалезнае здароўе і моцныя нервы.

Увогуле, «харчовая тэма» магла б стаць тэмай фільма пра наш, вельмі адметны ад усяго свету, лад жыцця, таму што, бадай, нідзе ў свеце, можа акрамя Афрыкі ды паўночнай Карэі, не харчуюцца так кепска і аднастайна, як і ў нас. І нідзе ў свеце не прыкладаецца так многа намаганняў, каб пракарміцца. Што я маю на ўвазе? А тое, што ў Беларусі ледзь ці не кожны жыве «з зямелькі». Вясной, летам і восенню народ шчыруе на сваіх сотках у вёсках і на лецішчах, блукае па лясах у пошуках дароў прыроды, каб зрабіць загатоўкі на доўгую зіму. Як пчолкі, цягнуць беларусы ў свае маленькія хаты-норкі капусту, бульбу, моркву, буракі, цыбулю, часнок... Жанчыны перапрацоўваюць свае кухні ў мініфабрыкі па сушцы, варцы, саленні, кансервацыі садавіны і гародніны. «Інакш мы проста не выжывем», — кажуць тыя, хто перапрацоўвае сваё жыццё ў суцэльную прадуктовую нарыхтоўку.

ЯК МЫ СЯБЕ ПАВОДЗІМ

Разам, а можа і паралельна з «харчовай тэмай», лагічна было б здымаць фільм пра агрэсіўнасць грамадства. Бо вучоныя кажуць, што чалавек, чыё існаванне зведзена да простага фізічнага існавання, пачынае выяўляць жывёльныя інстынкты. Падказваю ня толькі ідэю фільма, але і канкрэтныя сюжэты.

Пачынаць можна са здымак на прыпынку грамадскага аўтатранспарту. Камера ідзе ўніз, канцэнтруецца на асфальце, віртуозна запляваным. Пляваць сабе пад ногі — гэта вельмі спецыфічная звычка. Існуе яна ў аднаго дзікунскага і ваяўнічага племені, што пражывае на афрыканскім кантынэнце. Згодна з існуючай традыцыяй, плюнуў абарыген пад ногі супляменніку — значыць, выказвае яму сваю непавагу, хоча разабрацца з ім у адкрытай бойцы.

На прыпынку людзі не размаўляюць — тут яны не маюць прэтэнзій адзін да аднаго. Галоўная задача — апынуцца любым шляхам у транспарце. У вось, нарэшце, цяпер можна здымаць і ў транспарце. Хаця як чыста тэхнічна рабіць здымкі ў перапоўненым аўтобусе, дзе людзей, як селядцоў у бочцы, — не ведаю. Тут можна пачуць вельмі арыгінальныя дыялогі:
- Чаго ты штурхаешся, кабыла?
- Ты мне не «тыкай», а то сапраўды зараз так штурхану, што паляціш, як фанера, з аўтобуса.
- Вось жа паскуда якая нахабная, бачыце, людзі, якія яны, маладыя, бацькоў пазабіваюць за грошы... Намалявалася, прайдзісветка...
- Баба, заткніся, а то я за сябе не адказваю, — пагрозліва папярэдзіла маладуха.

У такіх перапоўненых аўтобусах з вялікай ахвотой курсіруюць прафесійныя злодзеі. Пакуль пасажыры разбіраюцца, каму стаяць, а каму сядзець, высвятляюць адносіны, глядзіш — і абчысцілі якую разяву. Спахапіўся чалавек, а кашалька ўжо няма.

Некалькі гадоў таму мне давялося пісаць артыкул, у якім расказвалася, як адзін маладзечанскі гаспадар на тэрыторыі былога царковішча і на месцы пахавання загінуўшых пры абароне Маладзечна ад немцаў пасадзіў бульбу. Тэрыторыю, выдзеленую яму мясцовымі ўладамі, ён абнёс плотам, але і праз плот можна было ўбачыць па краях бульбяніка поля ссунутыя каменныя помнікі. Значыць, бульбу ён садзіў проста на костках... Здзічэласць гэтага чалавека, раўнадушша да таго, што адбываецца, мясцовых уладаў і жыхароў, якія не маглі не ведаць, што ў гэтым месцы знаходзіліся могілкі, былі проста ашаламляльныя.

Чаму людзі сябе так паводзяць, чаму аказаліся занядбанымі ў нашым грамадстве спрадвечныя нормы маралі і этыкі, чаму чалавек разбурае, крышыць, псуе, пэцкае, зневажае мінулае і продкаў? Чаму мы ўвогуле так кепска жывем? Гэтае пытанне я аднойчы задала вядомай беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч. «Я ўвогуле адмаўляюся разумець людзей, якія задавальняюцца кавалкам сала з бульбай у канцы XX стагоддзя і могуць жыць у такіх умовах — сярод бруду, на руінах. Я доўга раздумвала над гэтым пытаннем. Думаю, што наша грамадства доўгія гады сілкавалася марай пра шчасце, утопія вабіла і разбэшчвала. Чакалі цуд, а ён не здарыўся. Наадварот, жыццё стала яшчэ больш жорсткім, цяжкім. Вось і злуемся на тое, што так кепска жывем, калі ўвесь свет ужо ў іншым вымярэнні. Да таго ж, перагрузкі ў сучаснага чалавека вельмі вялікія, а ён не створаны для пастаянных перагрузак».

Агрэсіўнасьць людзей, што накапілася ў небяспечных дозах, хутчэй за ўсё, сьведчыць пра нашу няздольнасць жыць па-новаму. Хаця, як сказала адна немка, што займаецца выдавецкімі справамі ў Мінску, немцы сталі б куды больш агрэсіўнымі і злымі, чым беларусы, калі мелі б такое жыццё.

**Аня Пілатовіч** - Згода

====================================

# Пра акт дзяржаўнай здрады

**12 красавіка 2001 году так званая палата прадстаўнікоў учыніла дзеяньне супроць інтарэсаў Беларусі. Члены палаты «ратыфікавалі» пагадненьне пра наданьне расейскаму рублю статусу валюты Рэспублікі Беларусь.**

Адзіным аргументам для «ратыфікацыі» было тое, што гэтае пагадненьне ратыфікавала Дзярждума Расейскай Фэдэрацыі. Члены «палаты» непасрэдна парушылі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, артыкулы 1, 8, 136. Гэтыя артыкулы ўсталёўваюць наступныя палажэньні:

-- артыкул 136 -- «...Нацыянальны банк...валодае выключным правам эмісіі грошай»;

-- артыкул 8, абзац 3 -- «Не дапускаецца заключэньне міжнародных дамоваў, які супярэчаць Канстытуцыі»:

-- артыкул 1, абзац 3 -- «Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і правапарадак».

Крымінальны Кодэкс, артыкул 356, дакладна кваліфікуе такое дзеяньне -- «...оказание иностранному государству помощи в проведении враждебной деятельности против Республики Беларусь путём совершения преступлений против государства по заданию органов или представителей иностранного государства, умышленно совершённое гражданином Республики Беларусь в ущерб внешней безопасности Республики Беларусь, её суверенитету, территориальной неприкосновенности, национальной безопасности и обороноспособности (измена государству), - называется лишением свободы на срок от семи до пятнадцати лет».

Лукашэнку і палатнікам не ўдасца прыкрыць сваё злачынства «канстытуцыйным актам», які яны распрацоўваюць і які паспрабуюць прасунуць праз так званы «ўсебеларускі сход» 18 траўня 2001 году. Робіцца гэта таемна ад грамадзтва, таму адбор удзельнікаў сходу вядзецца пад пільным наглядам рэжыму.

«Ратыфікацыя» высьвятляе сутнасьць намаганьняў расейскай дыпляматыі, антыбеларускага лукашэнкаўскага рэжыму і прамаскоўскай апазіцыі. Яны імкнуцца рознымі мэтадамі схіліць заходнія краіны прызнаць легітымнасьць "палаты". Прызнаньне «палаты» за легітымны парлямант неабходныя Маскве толькі для наданьня выгляду законнасьці далучэньня Беларусі да Расеі. Задачы акупацыі Беларусі расейскі імпэрскі рэжым перавёў у закрыты так званы «саюзны» працэс і вырашае іх праз захоп кіруючых пасадаў у выканаўчай уладзе і сілавых ведамствах, праз зьнішчэньне беларускага бізнэсу і незаконнай прыватызацыі беларускай уласнасьці.

Здрадніцкія дзеяньні прамаскоўскай групоўкі сустрэнуць рашучы адпор беларускай грамадзкасьці. Грамадзяне Беларусі маюць канстытуцыйнае права абараняць незалежнасьць сваёй краіны. Прадстаўнікі працоўных калектываў прадпрыемстваў, калгасаў, установаў, прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацыяў усёй Беларусі 18 траўня 2001 году праявяць ініцыятыву і зьбяруцца на плошчы Кастрычніцкай у горадзе Менску, каб прадэманстраваць сваю пазыцыю.

Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ

**************************************************

# Сесія *NATO* у Вільні

Рыгор БУЯН

27-31 траўня ў Вільні зьбяруцца прадстаўнікі 19 краінаў - сябраў Паўночнаатлантычнага альянсу і 17 асацыяваных членаў *NATO*. На гэтую сесію прыедзе і Генеральны сакратар альянсу Джордж Робертсан. Літоўская сталіца пераняла эстафету сесіі, што для яе з'яўляецца дужа важным паказчыкам прыняцця ў еўрапейскае лона.

Беларусь жа пакуль знаходзіцца па-за Еўропай (маецца на ўвазе ў гэтым выпадку па-за ПА *NATO*) з-за лістападаўскага рэферэндуму 1996 года. Дэлегацыя на сесіях Паўночнаатлантычнага блоку ў якасці асацыяванага члена прысутнічала дэлегацыя Вярхоўнага Савету на чале са старшынём Мечыславам Грыбам. Пасля антыканстытуцыйнага плебісцыту Беларусь страціла статус з правам дарадчага голаса, і М.Грыб ездзіў на штогадовыя сесіі толькі ў якасці наглядальніка, у 2000 годзе да яго далучыўся і Анатоль Лябедзька. Нездарма беларускі рэжым – у спробах прарыву ў цывілізаваны свет – паспрабаваў падаць як прызнанне незаконнага парламента сакавіцкі прыезд у Мінск місіі ПА *NATO* для звычайнага маніторынгу сітуацыі.

Чатырохдзённая праграма сесіі прадугледжвае паседжанні палітычных групаў, пленарнае паседжанне і закрыццё сесіі. Зыходзячы з таго, что дэгэтуль Беларусь у ПА *NATO* прадстаўлялі М. Грыб і А. Лябедзька, а сабраная з парэшткаў разагнанага ВС першая палата ўвогуле не была прадстаўленая ў названай міжнароднай структуры, то, верагодна, і ў Вільню паедуць першыя. Хаць, як сьцвярджае адзін з сябраў дэлегацыі А.Лябедзька, афіцыйныя запрашэнні пакуль не прысланыя.

====================================

**Леанід ЛЫЧ,** доктар гістарычных навук, прафэсар

# БССР З ПАЗЫЦЫЯЎ СУЧАСНАСЬЦІ

(Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэсту")

Пад магутным узьдзеяньнем нацыянальна-адраджэнскага руху, які на пачатку дваццатага стагодзьдзя не абмінуў і наш край, вымушаны былі карэнным чынам зьмяніць сваю пазыцыю адносна яго законных правоў на ўласнае дзяржаўнае разьвіцьцё і маскоўскія бальшавікі. І сапраўды, якая гэта несусьветная несправядлівасьць была абвясьціць у "Дэкларацыі правоў Расіі" (2 (15) лістапада 1917 г.) такую сьветлую і вясёлкавую будучыню для кожнага з іх, а вось толькі адных беларусаў трымаць у чорнай скуры, не даваць аніякіх магчымасьцяў стварыць уласную дзяржаву. А гэта-ж народ, які ў лепшыя часы сваёй гісторыі меў наймагутнейшую ва ўсёй Еўропе дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае! З гэтым фактам ніяк нельга было не лічыцца. Пра яго ня раз згадвалі нашыя адраджэнцы тым, хто ў штыкі прымаў ідэю беларускай дзяржаўнасьці.

Заставацца і надалей праціўнікамі дзяржаўнага разьвіцьця беларускага народу не давалі бальшавікам і тыя эпахальныя ў гэтым плане падзеі, што адбываліся на яго землях, дзе гаспадарылі нямецкія інтэрвэнты, чагосьці шукалі для сябе польскія і летувіскія нацыяналісты. І зразумела, найбольшы ўплыў на палітыку бальшавікоў у дадзеным пытаньні адыграла стварэньне на занятай кайзераўскімі войскамі тэрыторыі нашага краю Беларускай Народнай Рэспублікі, якая 25 сакавіка 1918 г. афіцыйна абвесьціла пра сваю дзяржаўную незалежнасьць. Урад гэтай маладой, народжанай у экстрэмальных на ўсю этнічную тэрыторыю беларусаў, г. зн. і тую частку, якая на той час знаходзілася пад юрысдыкцыяй Расейскай Фэдэрацыі.

Ва ўмовах, калі беларуская дзяржаўнасьць узьнікла, вучылася функцыянаваць на занятай ворагам тэрыторыі, станавілася зусім нелагічным нічога не рабіць па адбудове беларускай дзяржавы там, дзе, як любілі заяўляць бальшавікі, перамог пралетарыят, прыйшоў да ўлады сам народ, усталёўваюцца на прынцыпах інтэрнацыяналізму ўзаемаадносіны паміж савецкімі нацыямі. Вымушананая лічыцца з размахам беларускага нацыянальнага руху, галоўным кампанентам якога зьяўлялася стварэньне ўласнай дзяржавы, Масква ня бачыла іншага выйсьця, як пагадзіцца з гэтым зусім законным патрабаваньнем абуджанага да вялікай стваральнай працы народу. Так з ініцыятывы апантаных духам нацыянальнага Адраджэньня людзей і вымушанай згоды бальшавікоў амаль праз 125 гадоў наш народ ізноў стаў дзяржаўным, прычым двойчы, утварыўшы яшчэ, акрамя БНР, 1 студзеня 1919 г. і Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР).

З прычыны таго, што апошнімі гадамі нашыя дзяржаўныя дзеячы вядуць вельмі інтэнсіўныя пошукі формаў палітычнага аб'яднаньня з Расеяй, надзвычай важнае практычнае значэньне набывае вывучэньне вопыту дачыненьняў БССР з РСФСР у першыя гады іх паасобнага існаваньня, а ўжо пазьней, пасьля ўтварэньня ў сьнежні 1922 г. СССР, і з агульна-саюзнымі органамі з тым, каб своечасова ўхіліцца ад усяго таго, што за такі сьціслы тэрмін зьвяло наш дзяржаўны суверэнітэт ледзь не да нулявой адзнакі. А іншага выхаду і быць не магло, бо ніхто і ніколі ў Маскве не ставіў перад сабою мэту забясьпечыць беларускаму народу сапраўдны нацыянальны суверэнітэт. Ад першых дзён свайго існаваньня БССР уяўляла сабой і ў палітычным, і ў эканамічным, і ў культурным планах пэўны прыдатак Савецкай Расеі, бо без яе згоды практычна не магла вырашыць ніводнага сур'ёзнага пытаньня свайго ўнутранага і знадворнага жыцьця і самае страшнае — не распараджалася нават уласнай тэрыторыяй, хоць гэта зьяўляецца самай элементарнай прэрагатывай любой дзяржавы. Цяпер зразумела, чаму далёка ня ўсе палітычныя партыі і нацыянальна-вызваленчыя рухі з прыемнасьцю і радасьцю ўспрынялі факт абвяшчэньня БССР: ня бачылі ў ёй сапраўднай незалежнай дзяржавы. І яны мелі рацыю, бо Масква, са згоды якой толькі і ўзьнікла БССР, не ставіла задачы зрабіць апошнюю такой, якая ў належнай ступені адпавядала-б стандартам суверэннай дзяржавы.

Поўнае бясправе маладой рэспублікі Беларусь самой вырашаць свае дзяржаўныя межы выявілася трохі больш як праз месяц яе самастойнага ў двукосьсях дзяржаўнага жыцьця. У пачатку лютага 1918 г. Масква вымусіла БССР праз рашэньні Першага Ўсебеларускага зьезду саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў перадаць РСФСР Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую губерні, беспадстаўна тлумачачы гэта вялікай верагоднасьцю захопу іх польскімі легіянерамі. Тады-ж было вырашана — ізноў ня ўрадам БССР, а ЦК РКП(б) — астатнюю тэрыторыю Беларусі аб'яднаць з Летувай, чым быў пакладзены няўдалы пачатак стварэньня яшчэ адной эфэмернай савецкай дзяржавы — Літоўска-Беларускай ССР (Літбел).

У той нялёгкі час фармаваньня нашай ўласнай дзяржаўнасьці Масква дазваляла сабе груба ўмешвацца і ў іншыя ўнутраныя справы Беларусі і нават прычынілася да арышту яе слынных грамадзкіх і культурных дзеячаў, актывістаў нацыянальнага Адраджэньня Вацлава Іваноўскага і Браніслава Тарашкевіча, якія зьяўляліся сябрамі Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўраду Беларусі, што быў створаны ў дзень абвяшчэньня БССР.

Нельга не зьвярнуць увагі і на такі факт, што за ўвесь перыяд існаваньня Літбела (люты — ліпень 1919 г.) яе ўрад практычна нічога не зрабіў па стварэньні беларускай нацыянальнай сыстэмы адукацыі, арганізацыі беларускамоўнага друку. На ўсіх дзялянках культурнага жыцьця дзяржава зусім не імкнулася забясьпечыць духоўныя прыярытэты за сваім самым шматлікім народам, хоць, як вядома, у перыяд Першай сусьветнай вайны, нямецкай інтэрвэнцыі беларуская мова стала рабочай для соцень школаў, многіх пэрыядычных выданьняў. Растлумачыць ігнараваньне ўрадам Літбела беларускага фактару ў першую чаргу можна тым, што ў высокіх палітычных структурах гэтай дзяржавы вельмі бедна былі прадстаўлены беларусы. А акрамя іх саміх, ніхто іншы ня мог па-сур'ёзнаму паклапаціцца пра карэнныя нацыянальныя інтарэсы беларускага народу, прычым ня толькі ў сфэры духоўнага жыцьця. З-за адсутнасьці ва ўплывовых урадавых структурах Літбела нацыянальна-самасьвядомых беларусаў Масква без усялякіх сур'ёзных тлумачэньняў забрала ад гэтага штучнага дзяржаўнага ўтварэньня Дзісьненскі і Рагачоўскі паветы і ўключыла іх у склад Расеі.

Нягледзячы на ваенную дапамогу Расеі Літбелу, стрымаць наступ палякаў ніяк не ўдавалася. У канцы жніўня 1919 г. у іх руках апынуўся апошні больш-менш значны населены пункт Літбела — Зарасай. Чарговая літоўска-беларуская аб'яднаная дзяржава спыніла сваё існаваньне. Характэрна, што яна не сама прыняла адпаведны акт аб завяршэньні свайго "гістарычнага" шляху, а атрымала наконт гэтага ўказаньне з Масквы. Адсюль зусім проста ўявіць, які сымбалічны быў дзяржаўны суверэнітэт у Літбела: па волі чужой улады і нарадзілася, і адышла ў нябыт.

Такім няўдалым аказаўся вопыт стварэньня беларускай дзяржавы на савецкай аснове ў асобе БССР і Літбел. Надзея, што з дапамогай аб'яднанай літоўска-беларускай дзяржавы ўдасца стрымаць польскую інтэрвэнцыю, вельмі хутка рассеялася ўшчэнт. Пасьля таго, як у лютым 1919 г. Расея ўключыла ў свой склад усходнія беларускія губерні, а ўлетку таго-ж году польскія войскі захапілі Менскую і Віленскую губерні, наш край ізноў стаў бездзяржаўным. Праўда, фармальна нейкая палітычная ўлада ў яго захоўвалася, бо Рада Беларускай Народнай Рэспублікі працягвала дзейнічаць у межах захопленай польскімі легіянерамі тэрыторыі. Але на сваім шляху яна (ўлада) сустракала столькі перашкодаў ад сваёй заходняй славянскай суседкі Польшчы, што ўмовы функцыянаваньня Рады БНР падчас нямецкай інтэрвэнцыі падаваліся ледзь не райскімі.

Ліквідацыя беларускай дзяржаўнасьці, якая нібы зьнічкай зьявілася на палітычным небасхіле, не прывяла да зьняцьця з парадку дня беларускага пытаньня. Яно раз-пораз усплывала на паверхню. Толькі ізноў гэтае вялікай гістарычнай важнасьці пытаньне вырашалася не самім беларускім народам, а яго суседзямі — рускімі і палякамі. Умяшацца на роўных у дадзеную справу беларусам не дазваляла адсутнасьць у іх сваёй уласнай дзяржавы і нават самага невялічкага кавалачка зямлі, на якім яны маглі-б пачуваць сябе гаспадарамі. Усё захапілі і падзялілі паміж сабой усходнія і заходнія браткі-славяне. Але падзялілі так, што ні першыя ні другія не лічылі сябе задаволенымі. Таму ў любы момант супярэчнасьці паміж імі маглі перарасьці ў ваенныя дзеяньні. І адбылося такое ў пачатку ліпеня 1920 г. На гэты раз посьпех спадарожнічаў чырвонай арміі, войскі якой 11 ліпеня ўступілі ў Менск і працягвалі імклівa рухацца ў заходнім напрамку.

Выдатна ведаючы, з якой пасьлядоўнасьцю і настойлівасьцю Рада Беларускай Народнай Рэспублікі адстойвала ідэю незалежнага нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця свайго народу, РКП(б), урад РСФСР былі вымушаныя з улікам дадзенага фактару даць сваю згоду на другое абвяшчэньне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Але што гэта была за дзяржава ў тэрытарыяльным плане? Крыху больш як праз паўгода ў яе складзе знаходзілася ўсяго толькі адна былая Менская губерня. Зразумела, зьяўленьне на сьвет такой мікрадзяржавы не прынесла сапраўднай радасьці беларускаму народу. Асабліва рэзкі пратэст супроць вызначэньня тэрыторыі БССР толькі ў межах шасьці паветаў колішняй Менскай губерні выклікаў у Беларускай партыі сацыял-рэвалюцыянераў. Яе цэнтральны камітэт так і не падпісаў прынятую 31 ліпеня 1920 г. Дэкларацыю пра абвяшчэньне незалежнасьці БССР, заяўляючы, што апошняя павінна ўключаць у сябе ўсю этнічную тэрыторыю пражываньня беларусаў. Такая пазыцыя эсэраў па тэрытарыяльным пытаньні БССР прывяла да крайняга абвастрэньня іх адносін з бальшавікамі. Па ўказаньні апошніх спецслужбы дзяржаўнага палітычнага ўпраўленьня арыштавалі ў лютым 1921 г. больш за 850 самых актыўных сяброў партыі беларускіх эсэраў.

Урок з гэтага вынікае такі: ва ўсіх формах палітычнай інтэграцыі Рэспублікі Беларусь з іншымі дзяржавамі нельга даваць права ўраду ніводнай з іх распараджацца беларускай тэрыторыяй. Вырашэньне гэтага жыцьцёва важнага пытаньня знаходзіцца выключна толькі ў кампэтэнцыі дзяржаўных органаў Беларусі. Калі-ж па якіх-небудзь прычынах пануючыя пазыцыі ў іх зоймуць небеларускай нацыянальнасьці, схільныя служыць інтарэсам іншых краін, вырашэньне тэрытарыяльнага пытаньня належыць аддаць самому насельніцтву, інтарэсы якога яно непасрэдна закранае.

У першыя-ж часы існаваньня БССР адчулася яе вялікая залежнасьць ад Расейскай Фэдэрацыі ў эканамічных і палітычных адносінах, у распрацоўцы сваёй заканадаўчай базы, стварэньні сыстэмы народнай адукацыі. Дзе паводле ўласнага жаданьня, а дзе па чужой волі Беларусь кіравалася многімі расейскімі нарматыўнымі актамі. Што датычыць яе вышэйшага партыйнага органу, дык ён цалкам падпарадкоўваўся ЦК РКП(б). Амаль усе самыя адказныя пасады ў ЦК КП(б)Б займалі прысланыя Масквой асобы, якіх нішто, акрамя партыйнай кар'еры, не зьвязвала з нашым краем. Толькі адзінкі з іх імкнуліся інтэгравацца ў яго нацыянальнае культурна-моўнае жыцьцё.

Абмежаваньне доступу ў дзяржаўныя і партыйныя органы БССР беларусаў і асабліва тых, што ўваходзілі ва ўрадавыя структуры БНР, найбольш далося ў знакі ў час вядзеньня ў кастрычніку 1920 г. у Рызе расейска-польскіх мірных перамоваў, галоўным пытаньнем якіх зьяўлялася тэрытарыяльнае. Яго можна цалкам атаясаміць з тэрмінам "беларускае", бо тэрыторыю-ж дзялілі ў час перагавораў ні рускую, ні польскую, ні летувіскую, а беларускую. І вось несусьветны парадокс: дзялілі ў адсутнасьці саміх гаспадароў — беларусаў.

(далей будзе)



# Нясвіж у XXI стагоддзі

Кірыла ПАЗЬНЯК (Наша Свабода)

*У новым стагоддзі ў Беларусі зноўку загаварылі пра рэстаўрацыю гістарычнага цэнтра Нясвіжа, вядомага ў летапісах з 1223 года і здаўна называнага «беларускім Парыжам». Хоць гаворцы пра пачынанні ў гэтай справе ўжо не адно дзесяцігоддзе. Што ж мяркуюць зрабіць рэстаўратары з трыма самымі вядомымі нясьвіжскімі архітэктурнымі збудаваннямі – Радзівілаўскім замкам, касцёлам ды ратушай?*

Для пачатку, паводле рашэння мясцовага райвыканкама, Нясвіжскі замак пакіне санаторная ўстанова, якая там месціцца. У 1945 годзе саўнаркам аддаў замкавую забудову міністэрству аховы здароўя, і адпачывалі тут збольшага партыйныя чыноўнікі. Напачатку 90-ых гадоў урад В. Кебіча перадаў санаторый "Белміжкалгаслячэбніцы". Адсяленне мусіць адбыцца да 1 ліпеня 2001 года. Палаца-паркавы комплекс 16-18 стагоддзяў будзе перададзены Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку "Нясьвіж». Пасля высялення санаторыя замак, узведзены напрыканцы 16-га стагоддзя пры Мікалаі Радзівілу Сіротку італьянскім архітэктарам Бэрнардоні, між іншым, збудаваўшага храм Хрыста ў Рыме, пачнуць рыхтаваць да рэстаўрацыі: будуць праведзеныя адмысловыя археалагічныя і натурныя даследаванні самога замка, кансервацыя разбураных частак замка (прыкладам, у жудасным стане знаходзяцца дах і гадзіннікавая вежа), а таксама работы па разборцы прыбудаваных да яго пазнейшых канструкцыяў.



● Старажытная нясвіжская ратуша. Выгляд да рэстаўрацыі

Па сканчэнні рэстаўрацыі Беларусь збіраецца хадайнічаць аб уключэнні Нясвіжскага замка ў Спіс сусветнага культурнага і прыроднага набытку (зараз там толькі Мірскі замак і Белавежская пушча). З санаторыя замак ператворыцца ў музей і, не выключана, у месца для міжнародных сустрэчаў. Мажліва, тут зьявіцца невялічкі гатэль. Дарэчы, пры фармаванні будучай музейнай экспазіцыі нанова і міжволі будзе ўзнятае пытанне рэстытуцыі. Згадайце хоць бы славуты тузін залатых апосталаў. Хто толькі з прыхадняў ні рабаваў радзівілаўскія скарбы! Толькі ў Расіі іх – спадчына расійскіх генералаў 1812 года — не на адзін музей. Па праблеме вяртання нясвіжскіх каштоўнасцяў папярэдняя дамоўленасць маецца толькі з польскім бокам. Палякі абяцаюць аддаць назад у замак калекцыю партрэтаў рода Радзівілаў, падораную савецкім кіраўніцтвам яшчэ да вайны польскаму прэзідэнту Беруту. Праўда, пры гэтым правы ўласнасці на карціны застануцца Польшчы.

Аднак, памятаючы досвед з Мірскім замкам, які рэстаўруецца ўжо амаль 20 гадоў, самая вялікая праблема наперадзе — не ператварыць рэстаўрацыю Нясвіжскага замка ў даўгабуд, прычым замак у Нясвіжы што да рэстаўрацыі куды складаней, чымсьці ў Міры. Без інвестыцыяў пазбегнуць гэтага не ўдасца. Але ахвотных выдаткоўваць грошы на Нясвіж пакуль не багата. Справа ў тым, што патэнцыйныя інвестары баяцца, што пасля рэстаўрацыі Нясвіжскі замак стане прэзідэнцкай рэзідэнцыяй А.Лукашэнкі. Але, па-першае, такая маштабная рэстаўрацыя – у любым выпадку працэс, які будзе доўжыцца гадамі, а новы прэзідэнт такога жадання можа і не мець. Па-другое, як давялі ў аддзеле музеяў міністэрства культуры, кажуць, што намераў зрабіць замак Радзівілаў прэзідэнцкай рэзыдэнцыяй і зараз няма, бо там амаль пэўна будзе музей. Хоць раней пра гэта заяўлялася неаднойчы. Да ўсяго яшчэ да рэканструкцыі давядзецца вырашаць няпростую праблему з адсяленнем санаторыя. Тамтэйшы персанал у колькасці 80 чалавек ужо лістуе да Нясвіжскага райвыканкама і мінкульта, скардзячыся, што пра іхняе працаўладкаванне загадзя ніхто не падумаў. Разам з тым, людзі даводзяць, што менавіта дзякуючы таму, што ў замку знаходзіўся санаторый, тут вёўся сякі-такі цякучы рамонт, і слыннае радавое гняздо князёў Радзівілаў не занепала яшчэ больш.



● Выгляд пасля рэстаўрацыі

Для разбіральніцтваў па шматлікіх пытаннях, звязаных з маючай адбыцца рэстаўрацыяй, у красавіку ў Нясвіж выязджае адмысловая мінкультаўская калегія на чале з міністрам культуры Леанідам Гулякам.

Відаць, будзе там абмяркоўвацца і праект па аздабленні інтэр'ераў размешчанай на галоўнай плошчы Нясвіжа гарадской ратушы, падрыхтаваны сумесным польска-беларускім прадпрыемствам «Рэнаватум» і разлічаны на 5 гадоў. Вонкавая рэканструкцыя ратушы была праведзеная некалькі гадоў таму. Тады з яе прыбралі выяву зоркі (раней тут месціўся Дом піянераў), надбудавалі вежу. Адно што помнік Леніну насупраць так і застаўся стаяць, але гэта ўжо з'ява не архітэктурная, а палітычная, і хочацца верыць, часовая.

Цяпер чарга ўнутранай рэстаўрацыі. Прычым праводзіць яе плануецца паводле фотафіксацыяў помнікаў-аналагаў – польскіх ратушаў у гарадах Торунь, Познань, Хелмно, Кракаў і іншых. Рэстаўрацыйны праект нясвіжскай ратушы будзе сімбіёзным і прадугледжвае стварэнне пяці залаў збольшага з муляжамі элементаў старажытнага інтэр'ера і копіямі дакументаў. Найперш гэта Зала святочных паседжанняў ці Зала Рады, дзе будуць знаходзіцца копія прывілеі аб магдэбургскім праве, ключ горада, гербы Нясвіжа і Радзівілаў, тагачасная мэбля, партрэты прадстаўнікоў дынастыі і каралёў Рэчы Паспалітай. Далей ідзе Зала суда з скульптурай «Феміда правасуддзя», з адзеннем суддзяў, прыстасовамі для катавання і пакарання і многімі іншымі прадметамі, што тычыцца судовай справы. Апрача таго, адмыслова будуць аздобленыя Канцылярыя пісара, Скарбніца, Кабінет бургамістра, Архіў. Каштарыс рэстаўрацыйных работ у ратушы, як і ў замку, пакуль не падлічаны. Вядома адно – сумы пойдуць на гэта вялікія. У міністэрстве культуры кажуць, што ледзьве не палова ад усіх іхніх выдаткаў. Прыярытэт як ніяк.

Ёсць што ладзіць і ў нясвіжскім касцёле, узведзеным болей 400 гадоў таму ў стылі барока тым жа самым італьянцам, манахам-іезуітам Бернардоні. У касцёльных склепах па-ранейшаму знаходзіцца каля 80 трунаў-саркафагаў з целамі княжскага роду Радзівілаў. Дык вось у касцёле трэба аднаўляць адну са сценаў, якая нядаўна абвалілася.

Што да іншых элементаў архітэктурнага ансамбля ў гістарычным цэнтры Нясвіжа, то ўлетку ў аднапавярховым будынку колішняй ваеннай камендатуры адчыніцца выставачная зала, куды будуць прывозіцца на паказ экспазіцыі з музеяў іншых нашых гарадоў.

Нарэшце, рэстаўрацыя ратушы і замка мусіць суправаджацца аднаўленнем краявіду гэтай мясціны. Напрыклад, варта было б як след добраўпарадкаваць прызамкавы парк, які разбіты на 100 гектарах абшараў, а таксама «разабрацца» з жытловым чатырохпавярховым будынкам, што недарэчна ўзведзены некалькі дзесяткаў гадоў таму каля ратушы на старой дарозе да касцёла.



● Нясвіжскі касцёл Божага цела

Атрымліваецца, што архітэктурная дапасаванасць паміж імі нібыта трохі знівеліраваная. Зносіць дом у якасці выйсця, мабыць, занадта турботна і дорага, бо ўсё ж там багата людзей жыве. А вось зрабіць у ім арку і аднавіць такім чынам стары шлях можна было б. У любым выпадку трэба неяк выпраўляць «саўковыя» недарэчнасці, хоць бы часткова вяртаючы натуральнасць. Тым не менш, апошняе слова за спецыялістамі.

# Ідэалагізаваная статыстыка

Гэткае азначэнне я ўпершыню пачуў у Нью-Ёрку, калі ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя працаваў Пастаянным прадстаўніком Беларусі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

У тым моры, а дакладней -- акіяне розных праектаў, даведак, прапаноў і патрабаванняў, якія штодня абрыналіся на рабочыя структуры ААН, статыстычныя дадзеныя нярэдка былі, так бы мовіць, "трацейскім суддзёй", якому амаль усе і амаль заўсёды, безумоўна, давяралі ў доўгіх і няпростых спрэчках ды абмеркаваннях. Чаму "амаль"? Ды таму, што такім-сякім упаўне афіцыйным лічбам веры ў міжнародных экспертаў усё ж не было. Яны, кажучы мякка, выклікалі ў іх паблажлівую і іранічную ўсмешку. І, на маё ашаламляльнае здзіўленне, адносілася гэта часцяком да папер, якія прыходзілі са сталіцы тады яшчэ маналітнага і вялікага Савецкага Саюза. Некаторыя ўнушальныя паказчыкі нашай эканамічнай магутнасці нават лаяльнымі да СССР аналітыкамі-прафесіяналамі прымаліся з пэўнай доляй скептыцызму і характарызаваліся нязвыклым для мяне тэрмінам -- "ідэалагізаваная статыстыка".

Другі раз гэтыя дзіўнаватыя словы пачуў я ад славутага вучонага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, пецярбуржца па нараджэнні Васіля Лявонцьева, калі мы з тагачасным міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам звярнуліся да яго з просьбай распрацаваць для нашай маладой краіны эканамічную праграму развіцця на пяцьдзесяць гадоў. Сівы мэтр, які ў свой час удзельнічаў у вывадзе з заняпаду Партугаліі, Паўднёвай Карэі, Сінгапура, ахвотна згадзіўся, палічыўшы суверэнную Беларусь з яе ўнікальным геапалітычным становішчам, сур'ёзнай тэхналагічнай аснашчанасцю і сучаснай адукаванасцю кадраў вельмі прыдатнай для сьмелых і эфектыўных прарываў на перадавыя рубяжы ў Еўропе і сьвеце. Сярод умоў, якія ён паставіў перад кіраўніцтвам нашай краіны, адной з першых і галоўных было прадастаўленне "неідэалагізаваных статыстычных паказчыкаў". Усе ўмовы, як мяне праінфармiравалі, у Мінску былі прынятыя. Акрамя адной, той самай няшчаснай статыстыкі: аб'ектыўнай, дакладнай, навуковай у нас на той час проста не было. І ніякай эканамічнай стратэгіі, апроч усё больш цеснай прывязанасці да суседняй разбуранай Расіі, таксама не было. Ды, шчыра кажучы, і цяпер не прадбачыцца.

Дык што ж гэта за такі драпежны і жывучы зьвер -- "ідэалагізаваная статыстыка", які адпалохвае ад нас разумных людзей і то пагрозліва бурчыць, то злосна гыркае на пакручастай нашай дарозе да цывілізаванасці і дабрабыту? Адкуль ён узяўся і чаму гэтак вольна ў нас сябе пачувае? Статыстыка, як даводзяць слоўнікі, - "навука, якая апрацоўвае і вывучае колькасныя паказчыкі развіцця грамадскай вытворчасці і грамадства, іх суадносіны і змены". І, як падказвае здаровая логіка, галоўнымі, абавязковымі адзнакамі яе павінны быць аб'ектыўнасць, дакладнасць, незалежнасць ад рэкамендацый ці дыктату якіх бы там ні было ўладных структур або асобных,

няхай сабе і вельмі высокіх, кіраўнікоў. Толькі тады яна можа спакойна і годна выконваць сваю місію непрадузятага "люстэрка", нешматслоўнага і прынцыповага дарадцы. Ідэялізаваная ж статыстыка арыентуецца на ідэялагічныя ўстаноўкі дзяржавы, на планы і прагнозы ўплывовых партый і груповак, на гучна заяўленыя прапагандысцкія мэты. Яна, напрыклад, дзе моўчкі, а дзе і ўголас, пры дапамозе мноства лічбаў і працэнтаў, пацвярджала абяцанкі КПСС пабудаваць да 1980 года на шостай частцы планеты камунізм, а потым забяспечыць да 2000 года ўсіх савецкіх грамадзян асобнымі добраўпарадкаванымі кватэрамі. Яна, каб не выглядаць ужо зусім хлуслівай і бяссаромнай, прыдумала вымяраць выпуск дакладнага абсталявання ў тонах, а матор трактара, які ў ім, як вядома, адзін, запісваць у справаздачы і маторнага, і трактарнага заводаў, каб іх на паперы было ўжо два. Яна ўвяла ў шырокі ўжытак так званыя сярэднія паказчыкі, што нарадзіла папулярны анекдот пра сярэднюю тэмпературу хворых у бальніцы. Яна налаўчылася так хаваць нявыгадныя для "гаспадароў" лічбы, што толькі добра адукаваныя прафесіяналы маглі адшукаць у кучы статыстычнага смецця жамчужнае зярнятка праўды.

І вось з гэткай хітрай ідэалагізаванай статыстыкай, як сведчыць сённяшняя беларуская рэчаіснасць, нягледзячы на немалыя перамены ў нашым жыцці, мы ніяк ня можам развітацца. Відаць, ад боязі зірнуць у вочы горкай праўдзе, ад разгубленасці перад невясёлымі вынікамі гучна абвешчанай стратэгіі "рынкавага сацыялізму".

Памятаю, як мяне ўразіла грознае, нават злоснае патрабаванне самага галоўнага чыноўніка дзяржавы на адной з апошніх нарад даць нарэшце яму "правільную" інфармацыю аб эканамічным стане гаспадаркі краіны. Не "аб'ектыўную", не "дакладную", не "навуковую", а - "правільную"! Так і дыхнула чымсьці яшчэ не забытым з тых задушлівых часоў, калі першы сакратар Разанскага абкама партыі за "правільныя" рапарты па надоях малака атрымаў на шырокія грудзі залатую зорку Героя Сацыялістычнай працы, а потым, пасля абнародвання яшчэ больш "правільных" паказчыкаў, пусціў сабе ў тыя грудзі кулю. І ніхто не ведае, дзе было больш "правільнасці", бо вызначалі яе, як правіла, не адпаведнасць фактам, а высокая воля інстанцыяў...

Няпоўная, выбарачная, а то і скажоная афіцыйная статыстыка заганяе ўнутр цяжкія хваробы грамадства, надоўга, калі не назусім, забірае ў людзей павагу да праводжанай у краіне палітыкі. Ну як можна верыць салодкагалосым прапагандыстам, што лемантуюць пра няспынны ўздым эканомікі Беларусі, калі жыццё абсалютнай большасці яе грамадзян няўмольна і відавочна пагаршаецца і многія з іх пераступілі сумную мяжу беднасці? Хто паверыць у абвешчаныя з высокіх трыбун поспехі нашай прамысловасці, калі па выніках студзеня гэтага года наша краіна мае адзін з найгоршых паказчыкаў росту прамысловай вытворчасці ў далёка не магутнай сям'і СНД? Нашы 3,7% глядзяцца неяк бедненька побач з 16,7% на Украіне, 9,8% у Казахстане, 11,4% у Арменіі. А нас тэле- і радыёагітатары са статыстычнымі даведкамі ў руках не адзін год запэўніваюць, што мы самыя лепшыя, самыя разумныя, самыя багатыя на постсавецкай прасторы... Каго абдурваем? І навошта?..

... А, магчыма, выдатны эканаміст, Нобелеўскі лаўрэат Васіль Васільевіч Лявонцьеў яшчэ дзесяць гадоў назад падказаў бы той жаданы шлях, які прывёў бы нашу родную Беларусь да росквіту і дабрабыту. Калі б не савецкая ідэалагічная статыстыка.

**Генадзь БУРАЎКІН** (Б.Ч.)

======================================

## Зварот Сакратарыята ТБМ да журналістаў, настаўнікаў і бацькоў з нагоды правядзення прымусовых палітінфармацыяў у навучальных установах Беларусі

Паважаныя сябры і калегі!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае сваю заклапочанасць з нагоды ўвядзення прымусовых палітінфармацыяў ва ўсіх навучальных установах Беларусі. Цяперашнія ўлады непакоіць рост нацыянальнай сьвядомасці сярод школьніцтва і студэнцтва. Пад пагрозай апынуліся іх планы поўнай русіфікацыі і дэнацыяналізацыі маладога пакалення нашай краіны. Увагу нашых дзяцей хочуць прыцягнуць да патокаў хлусні, што льюцца ў эфіры беларускага тэлебачання, прымусіць пераказваць адзін аднаму ўсе тыя трызненні, што гучаць у інфармацыйных і "аналітычных" праграмах БТ. Але часы, калі формула "чым больш відавочная хлусня, тым лягчэй у яе паверыць", ужо мінулі.

Звяртаемся да вас, паважаныя журналісты, скарыстаць тую магчымасць, што дае вам бязглузды загад ўладаў і заснаваць у кожнай газеце рубрыку "Да палітінфармацыі". Просім пад гэтай рубрыкай змяшчаць матэрыялы, прысвечаныя гісторыі Беларусі, культуры, беларускай мове, праўдзіва асвятляць пытанні дыскрымінацыі беларускамоўнага насельніцтва.

Просім і Вас, паважаныя настаўнікі і выкладчыкі, пры падрыхтоўцы да так званых палітінфармацыяў скіроўваць Вашых навучэнцаў да беларускамоўных і дэмакратычных крыніцаў інфармацыі.

А паважаных бацькоў заклікаем параіць сваім дзеткам не глядзець інфармацыйныя і "аналітычныя" праграмы беларускага тэлебачання, бо яны непазбежна прывядуць да разбурэння псіхікі вашых дзетак і падарвуць іхняе здароўе. Бо якое беларускае дзіця вытрымае, калі вядучыя "палітінфармацыйных" праграмаў называюць грамадзянаў Беларусі тутэйшымі абарыгенамі, стала і наўмысна здзекуюцца з беларускай мовы. Як казаў вядомы літаратурны герой – прафесар Прэабражэнскі: "Не чытайце савецкіх газет", так і мы раім вам: "Не дазваляйце сваім дзеткам глядзець хлусьлівыя інфармацыйныя перадачы БТ".

Красавік 2001 г.

Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"

*******************************************

## "Ці ўсьведамляеце *ВЫ* сваю адказнасьць, паважаныя прэтэндэнты?"

Вольга Бабак (Р. Рацыя)

Стварэньне шырокае кааліцыі з удзелам усіх патрыятычных сілаў краіны, фармаваньне моцнае каманды вакол адзінага лідэра, абнародаваньне ўзаемаўзгодненай перадвыбарнай плятформы... Усе гэтыя задачы варта тэрмінова вырашаць тым, хто ўзяў на сябе найбольшую адказнасьць за вывядзеньне Беларусі з крызысу. Так лічыць група беларускіх грамадзян, якія паставілі подпісы пад Зваротам "Ці ўсьведамляеце ВЫ сваю адказнасьць, шаноўныя прэтэндэнты?" да магчымых кандыдатаў на прэзыдэнцкую пасаду. (Зварот апублікаваны 10-га красавіка ў газэце "Народная воля"). Сярод падпісантаў дакумэнту – ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч, прэзыдэнт аналітычнага цэнтру "Стратэгія" Леанід Заіка, кіраўнік Цэнтру прававое дапамогі СМІ Міхаіл Пастухоў ды іншыя.

Наўрад ці ў зьвязку з вышэйзгаданым зваротам, але, прынамсі, у той жа дзень, адзін з кандыдатаў ад дэмакратычнае апазыцыі, Сямён Домаш, зьвярнуўся да трох іншых прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду (Ганчарыка, Казлоўскага й Чыгіра) з просьбай пацьвердзіць гатовасьць пакуль ісьці да выбараў камандай -- каб пазьней вылучыць аднаго.

Як паведаміў Рацыі Сямён Домаш, размаўляць пра ягоны зварот будзе сэнс пасьля таго, калі зь ім азнаёмяцца й адрэагуюць на яго ўсе адрасаты. Аднак ужо цяпер зразумела: і самых будучых кандыдатаў, і тых, хто назірае за іхнай падрыхтоўкай да выбараў з надзеяй на дэмакратычныя зьмены, непакоіць замаруджваньне працэсу й нястача дакладнасьці. І як сьледзтва -- асьцярогі, каб "шанец вяртаньня краіны да дэмакратыі... ня быў прапушчаны "з-за недаацэнкі сытуацыі й асабістых амбіцыяў". Апошнія словы ёсьць цытатаю са Звароту, апублікаванага ў "Народнай волі" за подпісамі Станіслава Багданкевіча, Леаніда Заікі, Паўла Знаўца, Васіля Шлындзікава, Георгія Таразевіча ды іншых беларускіх палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў.

Зварот да магчымых кандыдатаў у прэзыдэнты быў прыняты яшчэ тыдзень таму, на чарговым паседжаньні НВК - Нацыянальнага выканаўчага камітэту - гэтак званага "ценявога ўраду Беларусі", створанага ў 97-м годзе Генадзем Карпенкам дзеля яднаньня нацыянальнае эліты. Аднак Зварот, ініцыяваны Станіславам Багданкевічам, падтрымалі далёка ня ўсе прадстаўнікі гэтае эліты -- многія, у тым ліку й цяперашні лідэр камітэту Мечыслаў Грыб, палічылі ягоны тон залішне рэзкім.

"Відавочна, альтэрнатыўны кандыдат мае шанец толькі ў першым туры, -- гаворыцца ў Звароце. - У выпадку другога туру, -- улада з дапамогаю адміністратыўнага рэсурсу й сілавых структураў забясьпечыць "перамогу" сп-ра Лукашэнкі... Шырокія слаі беларускае грамадзкасьці чакаюць ад вас, шаноўныя прэтэндэнты, грамадзянскае адказнасьці й гатовыя да падтрымкі Вашых дамоўленасьцяў і ініцыятываў".

Мы адрасавалі некалькі пытаньняў падпісантам Звароту. Першы наш суразмоўца -- прэзыдэнт аналітычнага цэнтру "Стратэгія" Леанід Заіка.

**RR:** - Зварот з просьбаю да кандыдатаў пасьпяшацца дзейнічаць азначае, што вы не зусім задаволены (прынамсі, занепакоены) тым, як разьвіваюцца падзеі сёньня?

**Л.З.:** - Канечне. І трэба сказаць, што Беларусь чакае якраз такога кандыдата, энэргічнага, які будзе пастаянна генэраваць ідэі, будзе бачны ўсім. І гэта вельмі моцнае чаканьне. Вы зразумейце, што лідэры многіх партыяў, людзі, якія праз гады, дзесяцігодзьдзі змагаліся за дэмакратычныя прынцыпы, адышлі зараз на другі плян, пакінулі месца будучаму кандыдату, які вінен прэзэнтаваць усю грамадзянскую супольнасьць, нашую дэмакратычную структуру. На жаль, гэтага пакуль няма. Нашыя кандыдаты, на жаль, -- і гэта відочна -- пакуль і самы ня вераць ува ўласныя сілы.

Думку Леаніда Заікі доўжыць прафэсар Пастухоў, кіраўнік цэнтру прававое дапамогі СМІ пры БАЖ, які таксама паставіў свой подпіс пад Зваротам.

**М.П.:** - Гэты Зварот - нібыта крык тых людзей, якія лічаць, што надышоў час для больш рашучых дзеяньняў. Мы бачым, што патэнцыйныя кандыдаты ў прэзыдэнты вычэкваюць. Не сьпяшаюцца прыняць нейкую агульную праграму дзеяньняў, нейкую плятформу, якая стала б сьцягам усіх дэмакратычных сілаў. І гэты Зварот - ні што іншае як штуршок да далейшае кансалідацыі дэмакратычных сілаў. Найбольш перадавая частка грамадзтва, найбольш радыкальна настроеная пытаецца ў кандыдатаў і заклікае: калі вы ўзялі на сябе адказнасьць за будучыню краіны, то давайце, дзейнічайце. Час сыходзіць, а з часам сыходзяць і магчымасьці...

**RR:** - Які плян дзеяньняў кандыдатаў, на вашую думку, быў бы найбольш рацыянальным? У якое пасьлядоўнасьці й што яны мусяць сёньня зрабіць?

**Л.З.:** - Самае простае, што яны могуць зрабіць, - паказаць, што зьяўляюцца дэмакратычнымі кандыдатамі й людзьмі, якія прытрымліваюцца нерадыкальных пазыцыяў. І для таго, каб гэта прадэманстраваць, яны павінны самі паміж сабою сустрэцца, прыняць праграму ці плятформу (дарэчы, гэтую плятформу ім ужо Грамадзянская супольнасьць прапануе й праект такога дакумэнту ўжо ёсьць). І на падставе гэтага ўжо можна будзе бачыць, што мы маем справу з адказнымі людзьмі, здольнымі кансалідавацца. Таму што таксама спатрэбіцца й кансалідацыя выбаршчыкаў.

Праект плятформы для магчымых кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў, пра які гаварыў Леанід Заіка, распрацаваны групай экспэртаў - сяброў Нацыянальнага выканаўчага камітэту - і ўяўляе зь сябе праграму рэформаў ува ўсіх асноўных сфэрах беларускага жыцьця. "Дакумэнт, натуральна, ня мае характару абавязковага, - кажа сп-р Заіка, які займаўся ягонай экспэртызаю. - Мы проста хацелі б, каб магчымыя кандыдаты прыслухаліся да меркаваньня розных сілаў грамадзянскае супольнасьці й узялі на ўзбраеньне лепшае з таго, што яна выпрацавала". Праект плятформы мае быць апублікаваны ў прэсе й зьявіцца ў Інтэрнэце найбліжэйшымі днямі.



# ЛЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ РЫСЫ

Сёння, на пачатку новага тысячагоддзя перад намі паўстае горкае, жудаснае пытанне – ці застанецца жыць на планеце беларускі этнас? Гэтае пытанне скаладаецца са шматлікіх кампанентаў. Але не было яшчэ ў гісторыі шматпакутнага беларускага народа такой смяротнай пагрозы свайму этнічнаму і нават фізічнаму існаванню. І гэта не пустыя словы! Канчатковая страта самастойнасці і дзяржаўнай незалежнасці ва ўмовах чарнобыльскай катастрофы няўмольна вядзе да знікнення старажытнай і непаўторнай беларускай нацыі.

Мы ўжо перайшлі сумную мяжу – нас на Беларусі менш за 10 мільёнаў. Пры тым, што ў апошнія гады рэзка павялічыўся прыток бежанцаў з прасторы былога Савецкага Саюза. Але колькасць насельніцтва змяншаецца...

Кропля за кропляй нацыя страчвае свае жыцёвыя сілы. Спалучэнне глабальнай ядзернай катастрофы з сацыяльна-эканамічным крызісам нанесла страшэнны ўдар па жыццяздольнасці беларускага народа.

Вядома, што наступствы аварыі на ЧАЭС расцягнуцца на стагоддзі, але і тое, што ўжо адбылося, мае лёсавызначальнае значэнне для краіны.

Фактычна ўся тэрыторыя Беларусі, усе яе жыхары адчулі на сабе ўздзеянне чарнобыльскай радыяцыі. Страчаны велізарныя прыродныя багацці. Эканамічны ўрон вымяраецца сотнямі мільярдаў долараў. І галоўнае, Чарнобыль зрабіў замах на здароўе ўсёй нацыі. Аб'ектыўныя паказчыкі захворванняў у краіне значна павялічыліся практычна па ўсіх хваробах. У першую чаргу гэта закранула дзяцей.

Сёння на Беларусі нараджаецца менш як 20% здаровых дзяцей – падзенне ў тры разы ў параўнанні з 1986 годам! У чарнобыльскіх рэгіёнах падвоілася колькасць дзяцей-інвалідаў. Хутка падае працягласць жыцця... Я ня буду прыводзіць сумную медыцынскую статыстыку, якая адлюстроўвае паступовае зьнішчэнне беларускага народу. Больш істотна зараз задаць пытанне — чаму так адбываецца? Што нас чакае? І ці ёсць выйсце з гэтага становішча?

Добра вядома, што 70% радыеактыўнага рэчыва з Чарнобыльскай станцыі — эквівалент маленькай атамнай вайны — абрынулася менавіта на беларускую зямлю. Дзве другія чарнобыльскія краіны — Расія і Украіна — атрымалі разам удвая менш. Звычайна прыводзяць гэтыя лічбы і гавораць, што вось яна — прычына пакут беларускага народа. Такая, маўляў была «ружа вятроў». Трагічная выпадковасць. Што тут зробіш?

Мяне абсалютна не задавальняе такі адказ! Калі гэта ўся праўда пра нашу біду, тады растлумачце, калі ласка, чаму яшчэ тры гады пасля аварыі людзей трымалі ў няведзенні, без дапамогі, наўмысна перашкаджаючы ім самім ратаваць сябе ад пагрозы? Чаму менавіта з Масквы прыходзілі канчатковыя заключэнні, якія выглядалі як загады: аніякай панікі, усё добра, людзям нішто не пагражае? А беларускіх навукоўцаў, якія спрабавалі аспрэчваць гэтыя загады, звальнялі з працы? Чаму кіраўнікі тагачаснай Беларусі, асабіста спадар Слюнькоў, пасля такога клопату аб сваім народзе, хуценька зьехаў і апынуўся ў Крамлі? А тыя незвычайныя дажджы, што ішлі на пачатку мая 1986 года на ўсходзе Беларусі, пасля якіх узровень радыяцыі падскочыў у сотні разоў? Няўжо ўсё гэта выпадкова, нечаканы зьбег абставінаў? А ў выніку – тысячы загубленых душ, невымернае мора слёз і пакут...

Не, не тэхнічная памылка, не "ружа-вятроў", а імперская ўлада ператварыла Беларусь у зону нацыянальнага бедства, у радыяцыйны запаведнік, у схованішча смяротнай атруты. Гэта звышдзяржава ахвяравала лёсам і жыццямі беларускага народа дзеля самазахавання. Але ўдар Чарнобыля нават яна не здолела вытрымаць...

Ці ведаюць пра гэта беларусы? Ведаюць, ды хутка забываюць! Звыкліся з бядой. Ва ўспамінах захавалася танная савецкая гарэлка, а пра чарнобыльскі генацыд, пра знішчэнне здароўя сваіх дзяцей нашы суграмадзяне больш не думаюць. Калісьці чакалі дапамогі ад краіны, якая павінна несці адказнасць за чарнобыльскую трагедыю на Беларусі. Яна ж, Расія, абвясціла сябе праваправаемніцай былога Саюза, але нічога істотнага мы не атрымалі. Засталіся сам-насам з Чарнобылем.

А калі ўявіць сабе, што падчас чарнобыльскай катастрофы Беларусь была б незалежнай, самастойнай дзяржавай? Ці здарылася б з намі тое, што сёння маем? Мы мелі б усе падставы атрымаць поўную кампенсацыю ад тых краін, дзе адбылася аварыя. Не было б той дзіўнай сітуацыі, калі ніхто ніякай адказнасці за трагедыю мільёнаў людзей не нясе! Толькі суверэнная краіна можа разлічваць на эфектыўнае дзеянне такіх міжнародных прававых актаў, як Канвенцыя ААН аб аказанні дапамогі ў выніку ядзернай аварыі, рашэнні Венскай канферэнцыі а грамадзянскай адказнасці за ядзерны ўрон, канвенцыя ААН аб ядзернай бяспецы і гэтак далей. Адмова ад дзяржаўнага суверэнітэту вядзе да страты магчымасцяў карыстацца міждзяржаўнай і міжнароднай падтрымкай і дапамогай. А гэта — тое, што ўжо сёння адбываецца з Беларуссю, якую пануючы рэжым ператварыў у сатэліта Расіі! Не выпадкова былі «замарожаны» такія важныя для Беларусі пагадненні, як міжурадавы беларуска-аўстрыйскі Мемарандум аб супрацоўніцтве ў галіне мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, а таксама двухбаковыя пагадненні аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй, ЗША, Швецыяй. На чарзе – істотнае змяншэнне міжнароднай няўрадавай гуманітарнай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. Гэтага нельга дапусціць. Улічваючы, што бюджэтныя асігнаванні на Чарнобыль пакрываюць толькі дзесятую частку патрэбных краіне сродкаў, міжнародная гуманітарная дапамога ў галіне медыцыны, аздараўлення дзяцей, вітамінізацыі застаецца вельмі важным сродкам захавання здароўя беларускай нацыі.

Што чакае чарнобыльскую Беларусь у выніку канчатковай страты незалежнасці і ўваходу ў састаў Расійскай Федэрацыі?

Па-першае — скасаванне заканадаўчай базы, якая была створана ў 1990-92 гадах на Беларусі і якая істотна лепш бараніла правы ахвяраў чарнобыльскай катастрофы, чым у Расіі. Сёння значная частка адпаведных законаў не дзейнічае ў выніку Указа прэзідэнта, які, такім чынам, пазбавіў дзяржаўнай падтрымкі ў той ці іншай ступені ўсе сацыяльныя групы ахвяраў Чарнобыля — ад інвалідаў да дзяцей. Але ж адмяніць гэтыя законы праз беларускі парламент не здолеў нават прэзідэнт. Уніфікацыя заканадаўства дзвюх краін лёгка здыме гэтую перашкоду і ў трэці насельніцтва Беларусі знікнуць апошнія надзеі на дзяржаўную падтрымку. Тым больш, што яе прыйдзецца шукаць у Маскве.

Па-другое — рэзкае змяншэнне чарнобыльскага бюджэту. Па ўсіх напрамках: ад капітальнага будаўніцтва да навуковых даследаванняў. Мы вернемся зноў у 1986 год, калі вырашэнне беларускіх праблем будзе пастаўлена ў залежнасць ад інтарэсаў цэнтра. А як гэта адбываецца ў прэзідэнта Пуціна мы бачым. Чаго ж чакаць чарнобыльскай Беларусі, калі мільёны бежанцаў блукаюць па гарадах Расіі, калі цэлыя рэгіёны пазбаўлены цяпла, святла, прадуктаў харчавання, калі маса дзяцей-беспрытульнікаў не маюць даха над галавой. Як бы не прыйшлося сваімі сціплымі сродкамі падзяліцца на карысць нашага старэйшага брата.

Па-трэцяе — кардынальна зменіцца характар гуманітарнага супрацоўніцтва. Не сакрэт, што такой шырокай і разгалінаванай сеткі міжнародных праграм гуманітарнай дапамогі, якая створана намаганнямі грамадскіх аб'яднанняў у Беларусі, не існуе ні ў Расіі, ні ва Украіне. Без перабольшання можна сказаць, што яна ахоплівае ўсю Беларусь. Гэта галоўнае дасягненне грамадскай супольнасці ў нашай краіне.

50—55 тысяч беларускіх хлапчукоў і дзяўчынак штогод праходзяць своеасаблівую практыку вольнага жыцця, успрымаюць тыя каштоўнасці, якія дапамагаюць ім зрабіць свой выбар. За апошняе чарнобыльскае дзесяцігоддзе праз такі жыццёвы вопыт прайшлі больш як чвэрць мільёна беларускіх дзяцей. Вось дзе хаваецца крыніца вяртання беларускага этнасу ў сусветную супольнасць, адраджэння яго духоўнай і фізічнай моцы! Страціць гэтую крыніцу – значыць яшчэ больш пагоршыць становішча беларускага народу.

Але наіўна меркаваць, што ў саставе Расеі магчыма захаваць гэты здабытак беларускага грамадства. Каб пераканацца, дастаткова пазнаёміцца з умовамі дзейнасці расійскіх гуманітарных арганізацыяў на міжнародных кантактах. Вытрымаць такую канкурэнцыю маленькім грамадскім арганізацыям самадапамогі з Ельска або Веткі будзе немагчыма. Калі ўлады гэта не хвалюе, дык паклапоцімся мы, бо тысячы чарнобыльскіх сем'яў, інвалідаў, хворыя дзеці могуць страціць апошні шанц на здаровае і шчаслівае жыццё.

Можна было б працягваць пералік таго, што прынясе чарнобыльскай Беларусі, беларускаму народу, які пакутуе ад радыяцыі, страта незалежнасці, дзяржаўнай самастойнасці. Але час пакажа, што ніхто не павінен падманваць сябе і іншых, што быццам існуе альтэрнатыва незалежнасці ў якасці шляху да выратаваньня беларускай нацыі ад Чарнобыля. Гэта адзіная магчымасць зберагчы беларускі этнас.

Я б хацеў давесці да сэрца кожнага чалавека, які жыве на нашай зямлі, што значыць сёння для Беларусі страціць сваю незалежнасць. Гэта здаць яе нават не Расіі — гэта здаць яе Чарнобылю. Таму мы ўсе павінны прысягнуць незалежнай Беларусі — дзеля сваіх дзяцей, дзеля сваіх нашчадкаў, дзеля самога жыцця беларускага народа.

**Генадзь ГРУШАВЫ,**
прафэсар, старшыня фонду "Дзецям Чарнобыля".

"Рабочы"

# Прэмія Алесю Беламу за "Белую Русь"

**Віктар Мухін**

11 красавіка Беларускі ПЭН-цэнтар прысудзіў прэмію імя Францішка Багушэвіча аўтару кнігі "Хроніка Белае Русі" Алесю Беламу. Гэтая кніга - першая спроба падаць поўную гісторыю назову "Белая Русь" на падставе грунтоўнага аналізу тэкставых і картаграфічных крыніц VII-XVIII стст.

Беларускі ПЭН-цэнтар заснаваў прэмію імя Францішка Багушэвіча у 1996 г. Прэміяй ганаруюцца кнігі, што служаць адраджэньню гістарычнае памяці беларускага народу й тым самым спрыяюць умацаваньню беларускае дзяржаўнасьці. Дагэтуль прэмія прысуджалася Ўладзімеру Арлову, Васілю Сёмуху, Кастусю Акулу, Васілю Быкаву, Міхасю Чарняўскаму, Лявону Баршчэўскаму, Але Сакалоўскай і Вячку Целешу.

Сёлета прэміяй быў уганараваны Алесь Белы -- аўтар кнігі "Хроніка Белае Русі", дзьвесьце зь лішкам старонак якое прысьвечаны высьвятленьню вытокаў цяперашняга назову нашага краю. Прысуджэньне прэміі Алесю Беламу стала нечаканасьцю для ўсіх прысутных на цырымоніі, якую вялі віцэ-прэзыдэнты ПЭН-цэнтру Ўладзімер Арлоў і Рыгор Барадулін.

**У.Арлоў:** - Сёлета мы прысуджаем прэмію шосты раз. Мы маем ужо дзесяць ляўрэатаў, і, здаецца, у ніводным не памыліліся. Ляўрэаты прэміі імя Францішка Багушэвіча працягваюць актыўна працаваць, выдаюць новыя кнігі, атрымліваюць новыя ўзнагароды - літаратурныя, урадавыя. На жаль, урадавыя ўзнагароды яны атрымліваюць не ў Беларусі. Сёньня сузор'е нашых ляўрэатаў павінна папоўніцца. І я папрашу ў гэты ўрачысты момант Рыгора Іванавіча Барадуліна ўскрыць канвэрт з вынікам працы журы...

**Р.Барадулін:** - Ведаеце, "сэкcотам" аніколі ня быў - ня ўмею канвэртаў адкрываць... "Пастанова журы па літаратурных прэміях Беларускага ПЭН-цэнтру. Беларускі ПЭН-цэнтар ганаруе прэміяй імя Францішка Багушэвіча сп. Алеся Белага за кнігу "Хроніка Белае Русі", у якой на аснове аналізу тэкставых і картаграфічных крыніц зроблены першы грунтоўны досьлед назову "Белая Русь" і яго месца ў сыстэмах геаграфічных

ведаў розных народаў і эпох. Прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Васіль Быкаў. Менск. 21 сакавіка 2001 г."

**А.Белы:** - Я вельмі ўсьцешаны, што вынік мае працы заўважаны, што кніга не засталася пыліцца ў архіўных сутарэньнях. Я спадзяюся, што досьледы праблемы паходжаньня назову "Белая Русь" будуць працягнуты, бо я пачуваюся стомленым ад гэтага матэрыялу й сумняюся, што здолею яго дапрацаваць.

Сёлетні ляўрэат прэміі ПЭН-цэнтру ў часе цырымоніі ганараваньня вельмі хваляваўся. Прэмія - літаратурная. Аўтар жа -- гісторык-аматар, а з прафэсіі -- інжынэр-канструктар. Але, як заценіў Рыгор Барадулін, -- прафэсія сёлетняга ляўрэата -- не галоўнае.

**Р.Б.:** - Добра, што Вы працягваеце традыцыі нашага вядомага Ўладзімера Арлова. У нас уся тапаніміка - я б яе назваў "савецкая тапаміміка" - угрунтаваная на легендах. Гомель - гэта "го! мель!", Матарова - гэта "мота" й "роў", Мазыр - яўрэй вёз тлушч, разьбілася лайба й ён закрычаў "Мой зыр!" Дазволю сабе такую вольнасьць - а адкуль тады слова "махер" паходзіць? І вельмі добра, што Вы грунтоўна, не па сфабрыкаваных дакумэнтах, ачышчаных Расеяй,аднавілі гісторыю назову "Белая Русь". Дзякуй вам, паклон!

Сёлета, апрача Алеся Белага, ляўрэатам прэміі імя Францішка Багушэвіча мог стаць вязень ГУЛАГу Рыгор Клімовіч, які, на жаль, заўчасна пакінуў гэты сьвет. Пра гэта нагадаў Уладзімер Арлоў.

**У.А.:** - Я далучаюся да віншаваньняў. І хачу сказаць, што ў нас мог быць сёлета другі ляўрэат - гэта Рыгор Клімовіч, аўтар кнігі "Конец Горлага" пра паўстаньне вязьняў Гарлягу ў 1953 г., якім у значнай ступені кіравалі нашыя суайчыньнікі. Але Рыгор Клімовіч летась пайшоў з жыцьця. Паводле Статуту мы ня можам прысудзіць прэміі пасьмяротна. Але ўспомнім сёньня ягонае імя, і згадаем ягоную кнігу.

Сёлетняга ж, адзінага, ляўрэата, апрача кіраўніцтва ПЭН-цэнтру, віншавалі ягоныя сябры, калегі. Адмысловае віншаваньне прагучала ад прэзыдэнта Беларускае асацыяцыі журналістаў Жанны Літвіной і прэсавага сакратара БАЖ Ілоны Ўрбановіч. Уладзімер Арлоў перадаў віншаваньні ад прэзыдэнта ПЭН-цэнтру Васіля Быкава, які цяпер знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Нямеччыне, агучыў вітаньні ад замежных сябраў журы ПЭН-цэнтру: айца Аляксандра Надсана, К. Акулы, В. Кіпеля й Я. Запрудніка...

******************************************

# НАМ ПІШУЦЬ...

## «НІХТО ЗА НАС НЕ ЗБУДУЕ БЕЛАРУСКІ ДОМ»

**(Што думаюць суайчыньнікі пра Трэйці зьезд беларусаў сьвету)**

Як ужо паведамлялася, МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" склікае агульнанацыянальны форум — Трэйці зьезд беларусаў сьвету ў Менску 5-6-га ліпеня 2001 году. Каб грунтоўна падрыхтавацца да яго, улічыць інтарэсы ўсёй, такой неаднароднай, дыяспары, узбагаціцца новымі ідэямі, рабочая група па падрыхтоўцы зьезду зьвярнулася да ўсіх беларусаў замежжа разгледзець прапановы, распрацаваныя ёю, і выказаць свае меркаваньні па асноўных пытаньнях зьезду, адказаць на такія, здавалася-б, простыя пытаньні: што нам рабіць? куды ісьці далей? "Бацькаўшчына" хацела-б далучыць як мага больш нашых суайчыньнікаў да падрыхтоўкі і правядзеньня Трэйцяга зьезду беларусаў сьвету. І гэта, на наш погляд, абгрунтаваны падыход да такой сур'ёзнай і надзвычай адказнай справы: не навязваць зьверху толькі сваё бачаньне праблемы, а прыслухацца і да думкі іншых, улічыць і іншыя погляды і, прааналізаваўшы ўсё, выпрацаваць найбольш аптымальную канцэпцыю зьезду, а значыць — і праграму далейшай дзейнасьці "Бацькаўшчыны".

Прыйшлі першыя адказы на анкету "Бацькаўшчыны", дасланую ў замежныя беларускія суполкі. І яны цешаць, бо даюць багатую пажыву для роздуму, падказваюць шляхі ўдасканаленьня нашай працы і разам з тым ставяць няпростыя пытаньні стратэгіі і тактыкі нашай арганізацыі. Ужо галоўная мэта зьезду, вылучаная "Бацькаўшчынай", — кансалідацыя беларускай нацыі, умацаваньне беларускай супольнасьці, выяўленьне ідэялаў, волі і чаканьняў усіх беларусаў сьвету, — выклікае дыямэтральна супрацьлеглыя ацэнкі. "пасадзіць усіх беларусаў у адну лодку нерэчаісна, бо вельмі парознаму яны разумеюць паняцьце "беларушчыны", — лічыць Генадзь Лех, старшыня Таварыства беларускай культуры з Масквы. — Жыцьцё будзе вымушаць ЗБС рабіць свой выбар".

Вядома-ж, самае простае — пасварыцца і разыйсціся па розныя бакі барыкадаў, вызнаючы стары савецкі лозунг: "Хто ня з намі — той супраць нас". Пераканаць свайго апанэнта ў неаспрэчанай вартасьці нашых ідэялаў — справа куды больш складаная. Можа варта прыслухацца да прапановы Пятруся Капчыка з Ізяслава і выявіць у дыскусіях, што перашкаджае беларускай дыяспары стаць больш маналітнай, як польская, армянская, турэцкая. (!?..)

Большасьць тых, хто даслаў свае прапановы і меркаваньні наконт месца і ролі ЗБС "Бацькаўшчына" ў грамадзкім жыцьці, прытрымліваюцца канструктыўнай думкі. Старшыня нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусь" у рэспубліцы Комі Аркадзь Крупенька падкрэсьлівае: "Хацелася-б бачыць Згуртаваньне дзейсным, рэзультатыўным, якое-б служыла інтарэсам аб'яднаньня беларусаў за мяжой і працавала разам з імі".

У асноўным ухваляючы прапановы, распрацаваныя рабочай групай па падрыхтоўцы Трэйцяга зьезду беларусаў сьвету, аўтары допісаў маюць і нешта сваё дадаць. Гэтае "сваё" якраз і ўяўляе практычны, інтарэс, узбагачае праграму "Бацькаўшчыны". Хто не пагодзіцца з П. Капчыкам, што добра было-б праводзіць сьвяты беларускай песьні, выставы беларускіх мастакоў па чарзе ў адной з краін кампактнага пражываньня беларусаў з удзелам як мясцовых самадзейных артыстаў, так і гасьцей з Беларусі. Алесь Карповіч з Латвіі ставіць іншае пытаньне: ці не пара ўжо пачаць стварэньне цэнтраў беларускай культуры ў дзяржавах, дзе ёсьць беларуская дыяспара. Старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны ў Вільні Ю. Гіль заклапочаны тым, што не праводзяцца сыстэматычна сэмінары для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасьці. Ян Чыквін з Бельск-Падляскага (Польшча) слушна дамагаецца, каб беларусы Беласточчыны мелі доступ да беларускіх кнігаў і прэсы. На яго думку, Нацыянальная бібліятэка ў Менску магла-б гэтую місію ўзяць на сябе ды хоць у нейкай ступені забясьпечваць "тутэйшае пісьменьніцкае асяродзьдзе навінамі друку". Хведар Нюнька з Вільні, Іна Снарская з Палтавы, Я. Ломаць з Летувы лічаць, што ЗБС "Бацькаўшчына" павінна мець свой друкаваны ворган, абмеркаваць на зьезьдзе пытаньне арганізацыі рэдакцыяў тэлевізыйных праграмаў для беларусаў замежжа (і ў замежжы). Пільную патрэбу стварэньня і рэалізацыі адзінай інфармацыйнай прасторы беларускага этнасу бачыць Язэп Паўловіч з Нямеччыны. Ёнжа прапануе "Бацькаўшчыне" сумесна з ТБМ "зрабіць усё, каб пашырыць уплыў нашае мовы і ўсімі сродкамі спрыяць вяртаньню годнасьці беларускаму народу". Пятрусь Капчык перакананы, што беларусы ў кожнай краіне абавязкава павінны мець на роднай мове школы, газэты, радыё і тэлебачаньне, "але сёньня, на правялікі жаль, толькі беларусы Польшчы і Балтыі маюць такое". Я. Ломаць з Летувы прапануе "спрыяць адукацыі на роднай мове, асабліва на беларускіх этнічных землях", а Валянцін Грыцкевіч з Расеі — абмеркаваць пытаньне аб адукацыі на беларускай мове і ўтварэньня курсаў беларусістыкі ў ВНУ Расеі. Кіраўнік таварыства беларускай культуры ў Вільні Хведар Нюнька ставіць пытаньне аб магчымасьці атрыманьня беларусамі з постсавецкага абсягу вышэйшай адукацыі ў Беларусі на ільготных умовах.

Ёсьць нямала канкрэтных рэгіянальных прапановаў, што актуальныя для замежных беларусаў шэрагу краінаў. Напрыклад старшыня Рады беларускай суполкі "Сьвітанак" у Кыргыстане Ніна Міронава ставіць пытаньне рэальнай абароны правоў беларусаў, якія не па сваёй ахвоце засталіся ў замежжы ў якасьці нацыянальных меншасьцяў. Спрашчэньне візавага рэжыму хвалюе беларусаў Балтыі. Зьміцер Ярашэўскі з Нямеччыны лічыць, што пытаньне аб спрашчэньні візавага рэжыму вельмі важнае і балючае, трэба абмяркоўваць яго, і, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, шукаць выйсьця. Алесь Карповіч з Рыгі выказвае такія набалелыя прапановы ў адносінах да дзяржаўнай палітыкі Беларусі: адмяніць прымусовае страхаваньне на мяжы пры ўезьдзе ў Беларусь беларусам па паходжаньні, спрасьціць працэдуру рэгістрацыі беларусаў, якія прыехалі на Бацькаўшчыну да родных і сваякоў, прадаставіць ільготы вандроўшчыкам пры афармленьні візы ў Беларусь.

Іна Снарская з Палтавы мяркуе, што трэба грунтоўна прадумаць культурную праграму для дэлегатаў і гасьцей зьезду: "Добра было-б запрасіць на канцэрт вядомых беларускіх бардаў, і ўпэўнена, што беларусы з замежжа былі-б шчасьлівыя паслухаць "Песьняроў". Яна нагадвае, што пад час Першага зьезду беларусаў сьвету ўсім дужа спадабалася сьвяткаваньне Купальля, а пад час Другога — падарожжа ў Нясьвіж, Мір і іншыя месцы. Было-б цудоўна, зазначае яна, арганізаваць вечарыну з вядомымі беларускімі пісьменьнікамі — Рыгорам Барадуліным, Вольгай Іпатавай, Генадзем Бураўкіным, Леанідам Дранько-Майсюком і інш. А пісьменьнік Анатоль Кірвель з Расеі прапануе правесьці прэзэнтацыю сваіх кніжак, выданых на беларускай мове ў Санкт-Пецярбургу.

Ды ўсё гэта маленькія клопаты ў параўнаньні з галоўнай праблемай. Што-ж найбольш трывожыць кожнага? Ёсьць адно напружана-драматычнае пытаньне, на якое ўсе чакаюць яснага адказу, — гэта, каб Беларусь захавала сваю дзяржаўную незалежнасьць і родную мову...

Па прызнаньні суайчыньнікаў, такія лісты-анкеты "Бацькаўшчыны" ня толькі выклікаюць натуральную цікавасьць, але і дазваляюць распачаць шырокае абмеркаваньне заўваг і прапановаў беларускай дыяспары напярэдадні Трэйцяга зьезду беларусаў сьвету.

Чакаем новых лістоў, новых думак і прапановаў. Упэўнены, што гэта на карысьць справе.

**Агляд допісаў зрабілі: Вацлаў Мацкевіч і Галіна Сяргеева**

=========================

## ЕХАЦЬ У МЕНСК НЯМА СЭНСУ.

Ад нейкага часу даволі інтэнсыўна праводзіцца прапаганда Трэйцяга зьезду беларусаў сьвету. Арганізацыя Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" — заслужаная, патрэбная і дзейная структура, якая сяк-так трымаецца ў Менску ў атачэньні акупацыйнага і варожага рэжыму.

Першы зьезд беларусаў сьвету быў цудоўнаю падзеяй у ўмоўна незалежнай Беларусі, другі зьезд — ужо зусім ня тое, ну а Трэйці рыхтуецца, але... Над Беларусьсю павяваюць сталінскія дзяржаўныя сымбалі, у Беларусі адкрыта вынішчаецца ўсё беларускае, краіна з-падцішка акупаваная расейскімі структурамі: і армія, і школьніцтва, і культура, і эканоміка, і палітыка — усё чужое, усё анты-беларускае, усё пра-ленінска савецкае...

Ехаць з далёкага замежжа ў такое чужое, дыктатарскае асяродзьдзе — гэта наражацца (дзеля няведаньня маскоўскае мовы) на хамскія кпіны альбо нават на паліцэйскія дубінкі...

Паводле статуту праводзіць Трэйці зьезд беларусаў сьвету неабходна, але не ў цяперашняй Беларусі... Можна было арганізаваць гэты зьезд у Польшчы, Летуве, Латвіі ды нават у Расеі, але ніколі ў Беларусі. Тыя асобы што паедуць у Менск на Трэйці зьезд будуць там хадзіць цішэй вады і ніжэй травы, а гэта для заходняга, свабоднага чалавека ніякі гонар...

У Менск, відаць, зьедуцца людзі ў пераважнай бальшыні з постсавецкай прасторы, але для далёкага замежжа ехаць у сёньняшні Менск няма ніякага сэнсу... М. С.

******************************************

## ТРЭБА ЕХАЦЬ НА ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ!

Згодна са статутам Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", зьезды беларусаў сьвету павінны адбывацца што чатыры гады. На сёлетні год прыпадае 3-ці гэткі зьезд. Пры цяперашнім стаўленьні ўраду Рэспублікі Беларусь да беларускае нацыянальнае справы, калі б чарговы зьезд ЗБС не адбыўся ў вызначаны статутам тэрмін, дык улады пачалі б рабіць большыя, чым дасюль, перашкоды ў далейшай працы згуртаваньня "Бацькаўшчына". Значыцца, сёлетні зьезд МУСІЦЬ адбыцца, і тэрмін яго ўжо вызначаны – 5-6 ліпеня (чацьвер-пятніца) 2001 году.

Людзі ў замежжы пытаюцца: Ці варта ехаць на той зьезд, калі ў Беларусі афіцыйныя чыньнікі зьневажаюць нацыянальныя сьвятасьці, дыскрымінуюць беларускую мову, заціскаюць свабоду, абражаюць патрыётаў, якія самаахвярна працуюць на грамадзкай, культурнай і палітычнай ніве? Вось жа пытаньне "Ці варта ехаць?" першнаперш нелягічнае й недарэчнае. Зьезд жа арганізуюць не дзяржаўныя чыноўнікі, а звычайныя грамадзяне-кіраўнікі ЗБС, патрыёты й абаронцы беларушчыны, якім даводзіцца працаваць у вельмі няспрыяльных абставінах. Ім якраз цяпер, як ніколі, патрэбная ўсякая дапамога – маральная й матар'яльная, каб зьезд адбыўся ды прайшоў пры максымальным удзеле з боку беларускай дыяспары як з блізкога, гэтак і з далёкага замежжа. Удалае правядзеньне зьезду будзе красамоўным паказальнікам жывучасьці беларускае нацыянальнае культуры й сьведамасьці, паказьнікам сілы нашага агульнага пачуцьця грамадзянскасьці й палітычнае дасьпеласьці.

Кожнаму, хто вагаецца, ехаць ці ня ехаць, варта было б паставіць сябе на месца арганізатараў зьезду, паспрабаваць уявіць, як "лёгка" ім, у абліччы безграшоўя й бясконцых перашкодаў ды цяжкасьцяў, рыхтаваць гэты зьезд.

(далей глядзі на бач. 11-ай)



Мікола Артон-Арцюх



Юрка Мазура



Варвара Сажыч



Таня Плескач



Юры Пруські



Мікола Кумэйша



Уладзімір Бакуновіч



У 50-я і 60-я гады беларуская грамадзкасьць у Дэтройце і штаце Мішыган была надзвычай дзейнаю і арганізацыйна дасканалаю супольнасьцю. Кіраўніком і вядучаю сілаю беларускай дзейнасьці ў Дэтройце быў інж. Юрка Мазура. Вакол яго гуртавалася беларуская эліта. На гэтай бачыне мы публікуем фота некаторых ведамых і дзейных беларусаў, якія адыйшлі ўжо ў сьвет вечнасьці. Былі яны сапраўднымі патрыётамі Беларусі і Амэрыкі. Вечная Ім Памяць!





Каця Мазура





IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

## Гэлена ШУСТ

**5 травеня 1924 — 22 красавіка 2001**

Гэлена Шуст радзілася ў Нямеччыне. Выйшла замуж за Міколу Шуста ў Бельгіі. Пераехаўшы ў Канаду дапамагала мужу ў ягонай шырока вядомай нацыянальна-беларускай працы.

У смутку засталася дачка Барбара, яе муж Алекс і дзьве ўнучкі.

Спачуваньні для дачкі Барбары і яе блізкіх ад сям'і Др. Барыса і Людмілы Рагуляў — блізкіх прыяцеляў Гэлены і Міколы Шуст. Паховіны адбыліся ў Лёндане, Канада.

Няхай Ёй будзе пухам канадыйская зямля.

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

КУРС ДОЛАРА






## Замест царкоўнай –польская мова!

Не выключана, што ў польскіх цэрквах замест царкоўна-стараславянскай мовы будзе ўведзеная дзяржаўная мова Польшчы - польская. Як вядома, да гэтага часу ў Польшчы, як і ў большасці іншых праваслаўных цэркваў у славянскім свеце, набажэнствы вядуцца на славянскай царкоўнай мове, якая была створаная ў IX стагоддзі Кірылам і Мятодам, і толькі чытанні адбываюцца ў нацыянальных мовах.

На сённяшні дзень Сьвяты Сынод Польскай аўтакефальнай праваслаўнай Царквы ўжо зацьвердзіў польскі варыянт тэксту літургіі.

навіны кнігарні

## Кніга лёсаў Алега Лойкі

**У Слонімскай узбуйненай друкарні выйшла з друку новая кніга нашага земляка Алега Лойкі пад назваю "Галгофа".**

У выданне ўвайшлі ўспаміны і літаратурныя роздумы Алега Лойкі пра беларускую культуру і літаратуру, яе вядомых прадстаўнікоў, творчасць якіх мае значэнне ў гісторыі нашай дзяржавы.

Кніга адкрываецца артыкулам "На трагічных перавалах", у якім аўтар у кароткай форме разглядае шляхі беларускай паэзіі XX стагоддзя.

Даволі цікавым раздзелам кнігі з'яўляецца аўтарская перыядызацыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Алег Лойка яе раздзяліў на восем перыядаў. Гэта беларуская літаратура 1905 — 1920 гадоў, беларуская савецкая літаратура 20-х — 30-х гадоў, заходне-беларуская літаратура 20 — 30-х гадоў, першаэміграцыйная літаратура 20 — 30-х гадоў, беларуская савецкая літаратура другой паловы 30-х — першай паловы 60-х гадоў, беларуская пасляваенная эміграцыйная літаратура і сучасная беларуская літаратура.

У новай кнізе Алега Лойкі на-друкаваны артыкулы пра Анатоля Вялюгіна і яго паэзію, пра Рыгора Барадуліна, Міколу Грынчыка, Міколу Аўрамчыка, Янку Купалу, Яўгенію Янішчыц і многіх іншых дзеячаў беларускай літаратуры.

Кніга выйшла тыражом 1000 паасобнікаў, і набыць яе можна будзе 1 мая на літаратурным вечары Алега Лойкі ў Слонімскім РДК.

Сяргей ЧЫГРЫН

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»* чакае Вашае ахвяры на ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!